*На гэтым тыдні будзе пераважаць сухое і цёплае надвор'е. У аўторак – без ападкаў. Вецер днём парывісты, у Брэсцкай і Гродзенскай абласцях месцамі моцны. Уначы +2…+8ºС, месцамі 0…+1ºС. Днём +16…+21ºС.*

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**


**№ 32 (4387)**

23 красавіка 2019 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.


**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*


# Народная Воля




СКАНДАЛ

# Расійскія пастаўшчыкі нафты падлажылі беларускім перапрацоўшчыкам свінню

Скажыце, а як яшчэ можна назваць тое, што ў трубах на беларускім участку магістральнага нафтаправода аказалася больш як 700 тысяч тон нафты, якая ўтрымлівае павышаныя дозы хлараргнікі? Старшыня канцэрна «Белнафтахім» Андрэй Рыбакоў паведаміў, што «асобныя пробы паказалі перавышэнне ў 100 разоў».

З-за няякаснай расійскай нафты на Мазырскім перапрацоўчым заводзе пад пагрозай надзвычай дарагое абсталяванне. Сёе-тое з яго ўжо патрабуе рамонту.

Хто кампенсуе беларускім нафтаперапрацоўшчыкам каласальныя страты эканамічнага і тэхнічнага кшталту? І ці гэта не спланаваная дыверсія, з тым каб сарваць нам хутчэйшае завяршэнне мадэрнізацыі двух нафтаперапрацоўчых заводаў? Выступаючы 19 красавіка з Пасланнем да народа і парламента, А.Лукашэнка сказаў, што неабходна «особое внимание обратить на скорейшее окончание модернизации двух нефтеперерабатывающих заводов… Чтобы мы не ходили с протянутой рукой, никому не кланялись в пояс, а покупали на мировом рынке нефть, перерабатывали».



ДЗІКУНСТВА

## Айцішнік напаў на свайго былога калегу

*Прычына такіх паводзін проста неверагодная. Зараз хулігану пагражае да 10 гадоў турмы*

Здарэнне адбылося ў Гомелі. Як паведамілі ў МУС Беларусі, маладая пара прыехала за пакупкамі ў адзін з гіпермаркетаў горада. Пакуль яны стаялі ў чарзе да касы, іх заўважыў былы калега мужчыны, махнуў рукой, але рэакцыі ў адказ не ўбачыў. І пасля таго, як пара выйшла з крамы і загружала пакупкі ў багажнік аўтамабіля, ён падышоў да іх, ударыў маладога чалавека нажом у твар і спакойна сышоў.

*"Пацярпелы не зразумеў таго, што адбылося, пакуль не ўбачыў кроў"*, – адзначылі ў МУС. І расказалі, што мужчыны не бачыліся каля трох гадоў, а раней разам працавалі ў IT-сферы.

Хулігана хутка затрымалі, нож яго знайшлі ў кантэйнеры сярод смецця. Матыў свайго ўчынку ён растлумачыў трыма словамі: *"Яны мяне пакрыўдзілі"*. У дачыненні да зламысніка ўзбуджана крымінальная справа па ч.3 арт.339 КК, санкцыя якога прадугледжвае да 10 гадоў пазбаўлення волі.

ПАРЛАМЕНЦКІЯ ВЫБАРЫ

## 7 ці 17 лістапада?

Тое, што выбары ў Палату прадстаўнікоў адбудуцца ў нас напрыканцы года, здаецца, пытанне вызначанае. Толькі вось Аляксандр Лукашэнка, выступаючы з Пасланнем да беларускага народа і парламента, сказаў, што калі гэта падыходзіць па законе, то можна сарыентавацца на 7 лістапада – Дзень Кастрычніцкай рэвалюцыі, выхадны дзень.

Пазней у СМІ з'явілася інфармацыя, што старшыня ЦВК Лідзія Ярмошына прапануе правесці выбары ў Палату прадстаўнікоў 17 лістапада.

У любым выпадку атрымліваецца, што ў сённяшняга парламента скароціцца тэрмін яго паўнамоцтваў прыкладна на дзесяць месяцаў. Але іншага выйсця няма – нельга, каб парламенцкія і прэзідэнцкія выбары праводзіліся ў адзін і той жа час.

ЧУЛІ?

## «Чарнобыльскі шлях» будзе без шэсця?

*У арганізатараў мерапрыемства няма грошай на аплату паслуг міліцыі*

Яшчэ 8 красавіка заяўку на масавую акцыю 26 красавіка ў гарвыканкам падалі сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» (БХД) **Вольга Кавалькова**, сябра Партыі БНФ **Зміцер Каспяровіч** і актывіст руху салідарнасці «Разам» **Генадзь Драздоў.**

Усяго арганізацыяй акцыі займаюцца восем палітычных і грамадскіх структур.

Улады Мінска акцыю дазволілі (збор удзельнікаў шэсця на пляцоўцы перад будынкам прэзідыума Нацыянальнай акадэміі навук у 17.30, пачатак шэсця – у 18.30), але абавязалі арганізатараў заключыць дамову з міліцыяй аб ахове грамадскага парадку.

Аднак, як паведаміла БелаПАН **Вольга Кавалькова**, на аплату паслуг праваахоўных органаў спатрэбіцца каля 7,5 тысячы рублёў, такіх грошай у арганізатараў «Чарнобыльскага шляху» няма.

Кавалькова паведаміла, што аргкамітэт акцыі збярэцца, каб абмеркаваць, як паступіць у гэтай сітуацыі. Яна не выключыла, што з-за недахопу сродкаў арганізатары могуць зусім адмовіцца ад шэсця і правесці мерапрыемства ў іншым фармаце.

ЗНАКОМЬТЕСЬ!

## У Белорусского Независимого профсоюза новый лидер



В минувшую субботу в Минске прошел 11-й отчетно-выборный съезд Белорусского Независимого профсоюза (его головной офис находится в Солигорске). Делегаты съезда избрали нового председателя БНП. Им стал **Максим Позняков**, который до этого был заместителем председателя первичной организации Белорусского независимого профсоюза на ОАО «Нафтан» (Новополоцк).

Максим Позняков сменил на должности руководителя БНП Николая Зимина, бывшего шахтера с многолетним стажем, стоявшего у руля организации с апреля 2011 года.

Выборы председателя БНП проходили на безальтернативной основе. Вице-председателями были избраны Сергей Черкасов и Александр Мишук – оба из Солигорска. Сергей Черкасов возглавляет входящий в структуру БНП Независимый профсоюз горняков, Александр Мишук – заместитель председателя организации НПГ на Втором рудоуправлении.

**Лариса НАСАНОВИЧ.**

СОБЫТИЕ

## Владимир Зеленский – новый президент Украины



МНЕНИЕ

### Игорь КИЗИМ, посол Украины в Беларуси:
## «Только на позитиве и по восходящей»

*«Я не вижу угрозы изменения белорусско-украинских отношений. У нас привыкли, что от одного человека зависит всё. Мне кажется, за последние пять лет созданы механизмы, которые необратимы и набрали оборот, уже работает система. За последние два – два с половиной года, пока я здесь, мы четко определили, как работать, создали механизм. Есть стратегия развития белорусско-украинских отношений, она была утверждена и принята»*, – цитирует слова дипломата *БелаПАН.*

Кизим отметил, что стратегия развития двусторонних отношений реализуется, а в качестве примеров упомянул рост товарооборота между двумя странами, проведение белорусско-украинских форумов, запуск вещания украинского телеканала UA TV, проведение дней культуры.

*«Я не вижу принципиальных различий между программами кандидатов по отношению к Беларуси. Поэтому я думаю, что всё будет в формате, который определили все вместе, только на позитиве и по восходящей»*, – добавил он.


*(Працяг тэмы на 5-й стар.)*


АСОБА

### Андрэй БОРКА:
## «Я такі, мне ад бацькоў і дзядоў засталася спадчына…»



*Ён з'яўляецца старшынёй 18 таварыстваў уласнікаў жылля. Мае дзве вышэйшыя адукацыі і пастаянна размаўляе на беларускай мове. Гродзенскія наймальнікі не мяняюць свайго старшыню ўжо 10 гадоў, а гэта прыкмета таго, што чалавек робіць сваю працу добра і сумленна. Як ператварыць нашы шматпавярховікі ў чыстыя, прыгожыя дамы і не пужацца лічбаў у жыроўках? Пра гэта і не толькі – у нашым матэрыяле.*

### Адмовіліся ад паслуг «Беларусбанка»

Спадар Борка кажа: арганізацыя працэсу пачынаецца з таго, што трэба знайсці актыўных жыхароў дома, той невялічкі працэнт, на якім усё звычайна трымаецца. І з імі абмяркоўваць патрэбы дома і жыхароў.

*«А я павінен прыйсці і займацца абслугоўваннем дома з камандай прафесіяналаў,* – зазначае Борка. *– Гэта сантэхнікі, бухгалтары, электрыкі, прыбіральшчыцы...»*

Гэта вельмі важны працэс, упэўнены Андрэй. За час сваёй працы Борка пераканаўся, што каманда прафесіяналаў павінна складацца з індывідуальных прадпрымальнікаў, якія маюць свой рыштунак, самі плацяць за сябе падаткі і г.д.

*«Бо мы, як казаў нехта з вялікіх, наймаем прафесіяналаў не дзеля таго, каб іх вучыць»*, – пераканаы старшыня ЖСПК. *– А чалавек, які адкрывае ІП, павінен умець рабіць сваю справу, інакш сам прагарыць і нічога не заробіць».*

Прафесіяналы, паводле меркавання Боркі, адразу бачаць усе дробязі, могуць падказаць, на чым рэальна можна сэканоміць. Напрыклад, ягоныя таварыствы больш не абслугоўваюцца ў «Беларусбанку», бо за гэта трэба плаціць аж 2%, а перайшлі ў меншыя банкі, дзе за абслугоўванне наогул плаціць не трэба.

Старшыня ЖСПК заўважае, што гэты працэс быў даволі няпросты і доўгі, але на яго вачах тыя ж электрыкі, бухгалтары і сантэхнікі самі дараслі да статусу індывідуальных прадпрымальнікаў, бо адчулі, што за сваю работу могуць атрымліваць годны заробак і не мець праблем.

І цяпер спадар Борка пераканаы, што ў камунальную гаспадарку павінен заходзіць прыватны капітал – у гэтым нічога новага, бо так робіцца ва ўсім свеце. Тым больш што гэта не патрабуе капіталаўкладанняў, а эфект адчувальны.

### Інфармаванасць і празрыстасць

Некалі, яшчэ ў студэнцкія гады, спадар Борка пісаў дыпломную працу па самакіраванні ў гарадах Заходняй Беларусі ў 1920–1930-я гады: самакіраванне тады будавалася на інфармаванасці насельніцтва і празрыстасці таго, што рабілася.

Ва ўсіх ЖСПК, дзе ён працуе, створаны чаты ў «Вайберы» куды кожны жыхар таварыства можа напісаць, даслаць здымкі, паказаць, дзе згарэла лямпачка, дзе брудная падлога і г.д.

*«І гэта важна не толькі для жыльцоў, гэта важна і для мяне, паколькі я бачу не толькі патрэбы, але і тое, як працуе каманда па абслугоўванні дома*, – кажа Андрэй. *– Кожнаму жыхару я потым адказваю, паказваю, што зроблена. І так усталёўваецца не проста кантакт з жыхарамі, а і давер адзін да аднаго».*

Старшыня таварыства ўласнікаў згадвае, што калі толькі распачыналі гэтую працу, то многія часам пісалі не па справе, але пазней гэта выраўнялася, і цяпер амаль 90% жыхароў ЖСПК карыстаюцца чатамі, дасылаюць інфармацыю і атрымліваюць справаздачы.

Цяпер кожны жадаючы атрымлівае паведамленне анлайн аб аплаце камунальных паслуг. Электронныя паведамленні не ўсе прынялі адразу, давялося пераконваць, што не трэба траціць сродкі на паперу, калі ёсць магчымасць атрымаць паведамленне на мабільны тэлефон. І гэта, паводле слоў Боркі, хоць і маленькая, але вельмі важная перамога ў свядомасці ўласнікаў.

Штомесяц у чатах размяшчаецца фінансавая інфармацыя аб тым, куды і якія сродкі былі выкарыстаны. Кожны ўласнік бачыць, колькі атрымлівае старшыня таварыства, бухгалтар і іншыя работнікі, што набылі за агульныя грошы. Інфармаванасць і празрыстасць, паводле думкі Боркі, тое, без чаго не магло б існаваць таварыства ўласнікаў.


*(Заканчэнне на 2-й стар.)*

БЮРАКРАТЫЗМ

# «Дзяржаўны цынізм распаўсюджваецца, як радыяцыя…»




*З-за бюракратызму дзяржаўных структур ліквідатар наступстваў аварыі на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі Іван Гарошка застаўся без капеечнай надбаўкі да пенсіі.*

## «Крыўдна да слёз!»

33 гады таму выбухнуў Чарнобыль. На барацьбу з радыяцыйнай навалай людзей адпраўлялі сотнямі, тысячамі. Многія з тых, хто трапіў у чарнобыльскае пекла, сталі інвалідамі. Анкалогія – «прафесійная» хвароба чарнобыльцаў.

Не ўсе з іх дажылі да сённяшняга дня. Тых жа, хто дажыў да чарговай гадавіны выбуху, наўрад ці ўсцешваюць дзяжурныя фразы высокіх чыноўнікаў аб бязмернай падтрымцы іх з боку сацыяльна-арыентаванай дзяржавы. Чарнобыльцам, многім з якіх 60 і больш гадоў, патрэбна канкрэтная дапамога. Але, замест таго каб дапамагчы, гэтых людзей, наадварот, пазбаўляюць заслужанай падтрымкі.

Сваю гісторыю «Народнай Волі» распавёў жыхар аграгарадка Опаль **Іван Гарошка**:

– У Чарнобыльскую зону я трапіў праз два гады пасля выбуху. Такіх, як я, у Беларускай ССР былі тысячы, калі не дзясяткі тысяч. З ваенкамата прыйшла павестка: маўляў, збірайся, Радзіма кліча. Нікога не цікавіла, што ў мяне двое маленькіх дзяцей, што я працую ў мясцовым калгасе памочнікам брыгадзіра. Трэба – значыць, трэба.

Вайсковая часць 07288 была сфарміравана ў чэрвені 1986 года спецыяльна для ліквідацыі наступстваў выбуху на Чарнобыльскай АЭС.

Мой Чарнобыль пачынаўся даволі празаічна. З Брэсцкай вобласці нас завезлі ў Аколіцу, што пад Мінскам, адтуль павезлі ў Веткаўскі раён – на Гомельшчыну.

**– У чым заключалася ваша работа ў Чарнобыльскай зоне?**

– У Веткаўскім раёне я знаходзіўся з верасня 1988-га па студзень 1989 года. Работу можна ахарактарызаваць проста – праца «на рыдлёўцы». Мяняў дахі, платы, мыў дамы. А са студзеня па сакавік 1989-га нас перавялі ў Хойніцкі раён – машынамі вазілі ў вёску Бабчын. Там стаяў міліцэйскі пост, за якім, уласна кажучы, і пачыналася забруджаная зона.

Мы якраз і ўсталёўвалі агароджу вакол яе. Заганялі ў зямлю драўляныя слупы, папярэдне апрацоўваючы іх хіміяй, каб яны не згнілі ў зямлі. А ведаеце, адкуль гэтае дрэва прывозілі? Правільна, з «Рудога лесу», які стаў сусветна вядомым пасля аварыі на ЧАЭС. Гэтыя драўляныя слупы і нарыхтоўвалі прама там, унутры зоны…

**– Пасля чарнобыльскай камандзіроўкі здароўе моцна пахіснулася?**

– Пакуль быў малады, асабліва нічога не адчуваў, працаваў, гадаваў дзяцей. З узростам стаў непакоіць боль у суставах. Да дактароў прыйдзеш – тыя толькі рукамі разводзяць: маўляў, гэта праблема ўсіх чарнобыльцаў… Частка майго здароўя засталася там, у чарнобыльскай зоне, і гэтага ўжо не зменіш. Але больш за ўсё баліць тое, што сучасная беларуская дзяржава плюе нам, чарнобыльцам, у твар!

**– Што вы маеце на ўвазе?**

– Калі мне прыйшоў час ісці на пенсію, то высветлілася, што ніякай дабаўкі за тое, што я знаходзіўся ў Чарнобыльскай зоне і браў удзел у ліквідацыі наступстваў аварыі, атрымліваць не буду. Калі вы думаеце, што гэта шалёныя грошы, то глыбока памыляецеся. Размова ідзе пра суму ў 13 рублёў 56 капеек.

А праблема ў тым, што я не магу даказаць, што быў ліквідатарам наступстваў аварыі на ЧАЭС. Калі быць зусім дакладным, то ў дакументах не ўказана, у якіх канкрэтна населеных пунктах я знаходзіўся. Гэта і стала фармальнай падставай для адмовы ў выплаце «чарнобыльскай» дабаўкі да пенсіі. Ці крыўдна мне? Канечне, крыўдна да слёз! Сутыкнуўшыся з такім стаўленнем чыноўнікаў, я прыйшоў да простай высновы: дзяржаўны цынізм вельмі падобны на радыяцыю, ён распаўсюджваецца ў Беларусі непрыкметна, але яго наступствы жахлівыя.

## Дакажы, што быў там

Менавіта так зараз стаіць пытанне. Іван Гарошка павінен сам даказаць факт свайго знаходжання ў зоне ліквідацыі наступстваў аварыі.

На руках у Івана Іванавіча ёсць пасведчанне пацярпелага ад катастрофы на ЧАЭС і іншых радыяцыйных аварый. Серыя дакумента – ЧК, нумар – 0124198. Але гэтага мала.

Недастаткова і даведкі з ваенкамата Іванаўскага раёна Брэсцкай вобласці, якую Іван Гарошка атрымаў у мінулым годзе. У дакуменце напісана: *«Выдадзена Гарошку Івану Іванавічу ў тым, што ён браў удзел у работах па ліквідацыі наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС у перыяд з 27 верасня 1988 года па 22 сакавіка 1989 года».*

У загадах камандзіра вайсковай часці 07288 не пазначана, у якіх населеных пунктах І.І.Гарошка выконваў работы, але там ёсць згадка: *«У гістарычнай даведцы вайсковай часці 07288 значыцца, што часць сфарміравана 7 чэрвеня 1986 года для ліквідацыі наступстваў аварыі на ЧАЭС. Увесь асабовы склад, які быў прызваны ў вайсковую часць 07288 у перыяд з 7 чэрвеня 1986 года па 25 снежня 1990 года, браў удзел у ліквідацыі наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС і выконваў разнастайныя работы ў 30-кіламетровай зоне».*

Здавалася б, ці трэба яшчэ штосьці камусьці даводзіць? Аказваецца, трэба, і ў сучаснай беларускай дзяржаве падчас цяжэй за ўсё даказаць відавочнае. Падставай для таго, каб не плаціць Івану Гарошку надбаўку да пенсіі ў памеры 13 з капейкамі рублёў (*за гэтыя грошы можна купіць кіло мяса.* – ***Аўт.***) стала якраз-такі тое, што ў дакументах не значыцца, дзе канкрэтна ён ліквідаваў наступствы радыеактыўнага выбуху.

Вось цытата з адказу начальніка ўпраўлення па працы, занятасці і сацыяльнай абароне Іванаўскага выканкама **Жанны Парфеявец**: *«З даведкі ваеннага камісарыята Іванаўскага раёна не ўгледжваецца Ваш непасрэдны ўдзел у працах па ліквідацыі наступстваў катастрофы на ЧАЭС у зоне адчужэння. Адпаведна ўстанавіць да вашай пенсіі надбаўку падстаў не маецца».*

Не задаволены такім адказам, чарнобылец Іван Гарошка пайшоў «па вертыкалі» ўверх і звярнуўся ў камітэт па працы і сацыяльнай абароне Брэсцкага аблвыканкама. Адтуль прыйшоў вельмі падобны адказ. Намеснік старшыні аблвыканкама спадар Барысюк напісаў, што *«з даведкі аб рабоце ўдзельніка ліквідацыі наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС угледжваецца ваш удзел у работах па ліквідацыі наступстваў катастрофы, аднак не пазначаны канкрэтныя пункты, у якіх выконваліся работы».*

Ці вінаваты Іван Гарошка, што 30 гадоў таму нехта не палічыў патрэбным пазначыць, куды канкрэтна яго накіравалі глытаць радыяцыю? Канечне не! І ці не на тое пастаўлены дзяржаўныя служачыя, каб абараняць правы грамадзян краіны і ў выпадку неабходнасці выпраўляць памылкі сваіх папярэднікаў? Аднак перапіска з чыноўнікамі пакідае ўражанне, што сучасная беларуская дзяржава са скуры вылузваецца ў намаганнях не збяднець на 13 рублёў у месяц.

Магчыма, такіх ліквідатараў, як Іван Гарошка, якія зараз не могуць даказаць факт сваёй прысутнасці ў зоне адчужэння, не адзін і не два… Можа, іх дзясяткі, сотні па ўсёй краіне. Але, па-першае, гэтыя людзі рэальна заслужылі права на дабаўку да пенсіі, а па-другое, гэта не тыя сумы, якія падарвуць эканоміку краіны. Дзяржава, табе не сорамна?

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

КРИМИНАЛ

# На стеклозаводе «Неман» новое уголовное дело

*Недавно за взятки были осуждены бывший директор предприятия и начальник управления по продаже стекловаты. Правда, решение суда первой инстанции еще не вступило в законную силу.*

Вчера Комитет госконтроля сообщил, что при проверке ОАО «Стеклозавод «Неман» работники Лидской межрайонной финансовой милиции и Комитета госконтроля Гродненской области установили, что в 2016 году начальник структурного подразделения завода без согласования с экономическим советом предприятия заключил договор с польской фирмой на поставку стекловаты по ценам ниже плановой себестоимости. В соответствии с этим договором с июля 2016-го по май 2017 года «Неман» поставлял польскому субъекту хозяйствования продукцию по заниженной цене и как результат – предприятию причинен ущерб в размере более 140 тысяч рублей. Возбуждено уголовное дело, ведется предварительное расследование.




За последние девять месяцев это второй громкий скандал на заводе «Неман», связанный именно с поставкой стекловаты. В июле прошлого года, как сообщалось, были задержаны с поличным директор завода **Владимир Аутко**, а также начальник управления по продаже стекловаты **Иван Шишко**. Информация сопровождалась фотографиями и видеокадрами с оперативной съемки задержания. *«Должностные лица получили взятки от представителя коммерческой структуры в размере 2,4 тысяч и 1,2 тысячи долларов США соответственно»,* – сообщали тогда правоохранители.

В январе начался суд над Аутко *(на фото)* и Шишко. Бывший директор, который проработал в этой должности менее года, вину свою отрицал полностью и заявлял в суде, что его оговорила директор украинского ООО, деньги ему подбросили. В суде ему, к слову, было предъявлено обвинение в получении трех взяток на сумму около 10 тысяч долларов. Вот что Аутко заявлял в суде: *«Вы у нее спросите, зачем это надо* (оговаривать Аутко. – ***Ред.****) Возможно, хотели надавить на директора. Думаю, их не устраивали условия поставки товара. Мы в 2018 году сильно цены подняли для украинских контрагентов, перевели всех на предоплату, это снизило доходность их бизнеса».* Владимир Аутко пояснял суду, что после своего назначения на должность директора начал приводить в порядок финансовые дела стеклозавода и занялся перезаключением контрактов с покупателями стекловаты, потому что они были разные для разных регионов. По его словам, из-за такого подхода при продаже стекловаты в Польшу рентабельность составляла 27%, при продаже в Россию – примерно 12%, а при продаже в Украину могла и вовсе уходить в минус.

Однако суд Новогрудского района посчитал вину 65-летнего Аутко доказанной и приговорил бывшего директора к шести годам колонии усиленного режима с лишением права занимать определенные должности на протяжении пяти лет.

Что касается Ивана Шишко, то он свою вину признал и до суда был отпущен на подписку о невыезде: таким образом под стражей он находился с 11 по 31 июля. Когда начался судебный процесс, Шишко уже работал в Лиде на одном из унитарных предприятий заместителем директора по коммерческим вопросам. Суд признал его вину доказанной по ч.1 ст.430 УК Беларуси (получение взятки) и осудил на два года колонии усиленного режима. Сразу после вынесения приговора в зале суда Шишко был задержан.

Однако решение суда Новогрудского района в законную силу еще не вступило. Как сообщил «Народной Воле» начальник отдела организационного обеспечения судебной деятельности Гродненского областного суда **Павел Варейко**, *«решение суда первой инстанции будет обжаловано в апелляционном порядке»*, и в мае в Гродненском областном суде будет рассмотрена апелляция Владимира Аутко.

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

АСОБА

# Андрэй БОРКА: «Я такі, мне ад бацькоў і дзядоў засталася спадчына…»

***(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)***

## Увесь час трэба даказваць: гэта ваш дом, ваша кватэра...

Калі спадара Борку запрашаюць на чарговы сход таварыства ўласнікаў, ён звычайна запытваецца: вы ўласнікі кватэры ці ўсяго дома? З гэтага ўсё пачынаецца. Бо потым, калі нешта паламана ў доме, ён кажа жыхарам: гэта ваша паламанае, новае будзе набыта за вашы грошы.

*«Я, канешне, з гадамі пачаў заўважаць, што вельмі многія людзі пачалі за сабой прыбіраць,* – кажа Борка. – *Альбо вось, да прыкладу, ацяпленне ў агульных месцах. Мы ніколі не чакаем загадаў, калі яго ўключаць альбо выключаць. Людзі самі, калі цёпла на вуліцы, абавязкова патэлефануюць і скажуць, каб адключылі, – навошта дарэмна плаціць за гэта грошы?»*

І яшчэ адзін вельмі важны момант з пункту гледжання Андрэя Боркі: трэба кіравацца інтарэсамі кожнага ўласніка таварыства.

## Новы жыллёвы кодэкс ужо састарэў

Спадар Борка кажа, што многія праблемы жыллёвай гаспадаркі можна вырашыць толькі на заканадаўчым узроўні, але новы жыллёвы кодэкс, паводле яго думкі, састарэў ужо сёння.

*«У ім не закладзены падставы развіцця кааператываў і таварыстваў на заўтрашні дзень,* – адзначае Борка. – *Ён не ўлічвае дасягненні сучасных тэхналогій і магчымасці актыўнай часткі грамадства. Заканадаўства павінна дазволіць прымаць рашэнні і тым людзям, якія галасуюць праз чат, паколькі яны ідэнтыфікаваны. Бо аператыўнасць у справах камунальнай гаспадаркі – адна з важнейшых умоў. Такая практыка існуе ў цывілізаваных краінах».*

## Беларуская мова мне не замінае

Спадар Андрэй увесь час па працы і на прыватныя тэлефанаванні адказвае на беларускай мове. У мінулым ён дацэнт гістарычнага факультэта. Кажа, што да роднай мовы прыйшоў сам і нічога змяняць не хоча. Паводле яго слоў, некаторыя людзі на сходах прапаноўваюць гаварыць па-руску, бо, маўляў, не разумеюць. А ён тады прапаноўвае застацца пасля сходу і пагаварыць яшчэ на рускай мове.

Калі нехта не разумее яго ў чаце, то спадар Андрэй прапануе ўключыць функцыю перакладчыка.

*«Я такі, мне ад бацькоў і дзядоў засталася спадчына,* – згадвае класіка Борка. – *Многія, дарэчы, на працы імкнуцца са мной гаварыць па-беларуску і проста словы беларускія ўжываць. Гэта ж наша роднае, як інакш?»*

## «Як вы паспяваеце працаваць на васямнаццаці ЖСПК?»

Паводле слоў Боркі, гэта адно з самых частых пытанняў, якое яму задаюць. І вось тут ён ізноў вяртаецца да таго, што ў камунальнай гаспадарцы павінны працаваць прафесіяналы, а не тыя, хто прыходзіць сюды вучыцца.

*«Я на пасадзе выбарнай, і заўтра, калі нешта ў маіх дзеяннях не задаволіць наймальнікаў, яны могуць у адзін момант вызваліць мяне з пасады»,* – канстатуе старшыня ЖСПК.

А працаваць, дадае спадар Андрэй, нялёгка, бо праца няпростая.

*«Мае заробкі ў таварыствах залежаць ад таго, колькі пад'ездаў у дамах. Там, дзе два пад'езды, я атрымліваю 150 рублёў у месяц, а дзе 4 – 250 рублёў. Але гэта нялёгкая праца»,* – яшчэ раз нагадвае Андрэй Борка.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

*Гродна..*

ПОГЛЯД

# За сапраўдныя выбары трэба змагацца!

Добры дзень, шаноўная рэдакцыя газеты «Народная Воля»!

Прачытаў артыкул Валерыя Карбалевіча «Украінскі ўрок для спадарыні Ярмошынай» у нумары ад 9 красавіка. Сапраўды, нязменная кіраўніца беларускай ЦВК дала вельмі высокую адзнаку праведзенаму напярэдадні першаму туру выбараў прэзідэнта Украіны, пахваліла сваіх тамтэйшых калег за добра зробленую працу.

Ну што тут сказаць: Ярмошына – прафесіянал сваёй справы і, напэўна, ведае, пра што кажа. Аднак тут пытанне, якое правільна паставіў спадар Карбалевіч: ці не плануе яна запазычыць карысны досвед нашых паўднёвых суседзяў, перанесці яго на айчынную глебу? Бо відавочна, што беларуская выбарчая сістэма патрабуе карэнных ператварэнняў. Так, трэба скасоўваць датэрміновае галасаванне, забяспечыць прадстаўніцтва апазіцыйных партый ды грамадскіх аб'яднанняў у выбарчых камісіях, адкрыты падлік галасоў ды іншае. Пра ўсе гэтыя базісныя рэчы ўжо сказана шмат разоў, яны ляжаць на паверхні. Аднак ажыццяўляць іх ніхто не спяшаецца. І няцяжка здагадацца чаму.

Тлумачыцца ўсё вельмі лёгка. Любыя свабодныя выбары – гэта жахлівае выпрабаванне для аўтарытарнага рэжыму, які прызвычаіўся ўсё трымаць пад каўпаком, даўно развучыўся адкрыта спаборнічаць са сваімі апанентамі. Тыя, хто пры ўладзе, цудоўна разумеюць, што можа адбыцца, калі даць грамадству волю, забяспечыць умовы для сумленнай палітычнай барацьбы. На гэтым пагарэў савецкі рэжым, калі Гарбачоў вырашыў склікаць З'езд народных дэпутатаў, выбары на які праходзілі пры заўважна меншым кантролі з боку партыі, не па сталінска-брэжнеўскіх лякалах. І СССР неўзабаве сканаў.

Апошнія гады пастаянна гучалі развагі пра магчымыя змены ў Выбарчы кодэкс. Гаворка пераважна ішла пра рэкамендацыі АБСЕ адносна ўдасканальвання выбарчага працэсу ў Беларусі. На словах улады ўсяляк падтрымлівалі змены, але на практыцы ўсё звялося да дробных, касметычных папravak, якія, па сутнасці, ні на што не паўплывалі.

Магчыма, улады пад ціскам Захаду збіраліся ладзіць не бутафорскія, а больш-менш сур'ёзныя рэформы. Аднак затым ад гэтага плана адмовіліся. Тут, на мой погляд, спрацавалі некалькі чыннікаў. Па-першае, на пачатку 2017 года здарыліся масавыя «дармаедскія» пратэсты, якія пракаціліся амаль па ўсёй краіне. На досыць масавыя мітынгі выходзіла нямала простых людзей, раней ніяк не ангажаваных у палітыку. Па ўсім было відаць, што гэта стала шокам для ўлады. І, добра падумаўшы, вырашылі не будзіць ліха, не ўводзіць ніякіх паслабленняў для ўнутраных апанентаў: а раптам яны на хвалі пратэстаў выйграюць выбары? Свабодныя выбары – гэта заўсёды латарэя з непрадказальным вынікам.

Па-другое, варта адзначыць, што Захад цяпер не надта ціснe на беларускі рэжым па частцы дэмакратычных рэформ. У Еўропы і ЗША хапае іншых, больш важных праблем. Яны відавочна змянілі свой падыход да Беларусі, больш асабліва не папракаюць Лукашэнку ягоным статусам апошняга дыктатара Еўропы. Дык чаму ён мусіць ісці на рэформы, якія могуць кепска скончыцца для пабудаванага ім рэжыму? А прымусіць яго да гэтага няма каму.

У Беларусі няма моцнай грамадзянскай супольнасці, уплывовай апазіцыі, якія маглі б патрабаваць ад улад перамен. Варта прызнаць, што наша грамадства збольшага не гатова да барацьбы за такія каштоўнасці, як свабода слова, сумленныя выбары ды іншыя. Людзі паўсталі супраць дэкрэта №3, бо ён біў па іх матэрыяльных інтарэсах, ствараў ім жыццёвы дыскамфорт. Але палітычныя правы і свабоды – гэта зусім іншае. У масе сваёй прагматычныя беларусы не бачаць сэнсу выходзіць на нешматлюдныя мітынгі, трапляць у следчы ізалятар, атрымліваць вялізныя штрафы, губляць працу ці вучобу. Для многіх гэта занадта дарагая цана за сімвалічную дэманстрацыю сваёй палітычнай пазіцыі. Каб мітынгі былі моцнай сілай, чыннікам, з якім уладам давядзецца лічыцца, колькасць іх удзельнікаў мусіць складаць сотні тысяч чалавек. А акцыі, якія збіраюць некалькі соцень ці ўсяго нейкую тысячу чалавек, – гэта марны лямант у пустыні.

Увогуле выбары выконваюць некалькі вельмі важных задач. Найперш гэта сродак ратацыі эліт. Выбары – своеасаблівы іспыт для прэзідэнта або дэпутата. Ці апраўдалі яны давер народа? Ці задаволена грамадства іх працай? Ад гэтага залежыць, ці будуць яны пераабраны на новы тэрмін. Выбары – гэта і механізм камунікацыі, зваротнай сувязі паміж уладай і народам. Калі ты хочаш, каб цябе зноў абралі, ты мусіш прыслухоўвацца да народных патрэб, выяўляць пытанні, якія найбольш моцна хвалююць грамадства, і па магчымасці іх вырашаць. Неабходнасць зважаць на грамадскія настроі вымушае палітыкаў да ўзважаных, прадуманых дзеянняў, спараджае ў іх пачуццё адказнасці за свае ўчынкі. А народ мае моцны інструмент кантролю за ўладай і можа раз на некалькі гадоў выстаўляць ёй свае адзнакі.

Такім чынам, сумленныя выбары выгадны ўсяму грамадству, а не толькі палітызаванай публіцы. Але праблема ў тым, што за іх трэба змагацца. Само сабой нічога не адбудзецца. Пакуль грамадства збольшага да гэтага, на жаль, не саспела.

**Дзмітрый КУРАТНІК.**

*Брэст.*

СЛОВА ЭКСПЕРТУ

# Вадзім ІОСУБ:
## «Расце цана на нафту – умацоўваецца беларускі рубель»

*Старшы аналітык кампаніі «Альпары» патлумачыў, чаму абваліліся долар і еўра.*

Учора беларускі рубель у чарговы раз умацаваўся да долара і еўра. Курс долара знізіўся на 0,0059 рубля да **2,0891 рубля за долар**. Гэта мінімальнае значэнне з 25 верасня мінулага года.

**Курс еўра знізіўся яшчэ на** 0,0060 рубля до **2,3497 рубля за еўра**. Для еўрапейскай валюты гэта мінімум з 20 жніўня 2018 года.

– Апошнім часам умацоўваецца расійскі рубель, бо растуць цэны на нафту, – кажа эксперт. – 22 красавіка таргі адкрыліся рэзкім ростам коштаў на нафту, цана паднімалася вышэй за 73,7 долара за барэль маркі Brent. Гэта самае высокае значэнне з пачатку лістапада мінулага года.

**– З чым гэта звязана?**

– З тым, што ЗША нагадалі пра другасныя санкцыі да пакупнікоў іранскай нафты. Як вядома, Злучаныя Штаты перасталі купляць гэтую нафту і пад пагрозай санкцый забаранілі гэта рабіць астатнім краінам. Але для некаторых было зроблена выключэнне – для Кітая, Індыі, Італіі, Грэцыі… А днямі ЗША заявілі: з мая выключэнняў не будзе ні для каго. На гэтым фоне нафта і пачала даражэць. Адпаведна ўмацаваўся і дачыненні да долара і еўра расійскі рубель, а следам за ім – і беларускі.

**– Ці працягнецца гэтая тэндэнцыя?**

– Трэба разумець, што ў Беларусі кошт долара і еўра да рубля практычна цалкам залежыць ад таго, як гэтыя валюты змяняюцца да расійскага рубля, а гэта спрагназаваць дастаткова складана.

Па-першае, многае будзе залежаць ад дынамікі цэн на нафту. Па-другое, на сітуацыю паўплывае той фактар, ці будуць у дачыненні да Расіі ўведзены новыя санкцыі. Абвал цэн на нафту і санкцыі да Расіі паспрыяюць аслабленню беларускага рубля, а калі гэта не адбудзецца, то зусім верагодна, што долар і еўра ў Беларусі працягнуць зніжацца.

**Сяргей НІКАНОРАЎ.**

МОЛОДЕЦ!

## Школьник помог спасти трех тонувших рыбаков

*Новополоцкий школьник Александр Поддубный вместе с дедушкой, отцом и другом семьи спасли трех рыбаков, тонувших на Освейском озере в Верхнедвинском районе. Об этом газете «Новополоцк сегодня» рассказал председатель городской организации ОСВОД Виктор Свиридов.*

В марте этого года Саша, его отец, дедушка и друг семьи ловили рыбу на Освейском озере, что в Верхнедвинском районе. Освея – излюбленное место рыбаков, поэтому в тот день здесь было достаточно многолюдно. Саша рыбачил рядом с дедушкой, когда услышал в отдалении, из-за острова, находящегося приблизительно на середине озера, приглушенный призыв о помощи. Вместе с дедушкой они немедленно бросились в направлении раздавшегося крика. Путь был относительно неблизкий, где-то 15 минут ходьбы. Когда они добрались до места происшествия, их глазам открылась следующая картина: в образовавшейся полынье (вблизи острова лед наиболее хрупкий) барахтались трое рыбаков. Один из них был полностью погружен в воду, двое других цеплялись за рыхлую кромку льда, помогая друг другу. В отдалении находились и другие любители рыбалки, но они не торопились предпринимать какие-либо действия. Следует отметить, что важным фактором при спасении людей из холодной воды является время. В такой ситуации счет идет на минуты. Человек в ледяной купели может окоченеть через 10–15 минут, а через 20 потерять сознание. Поэтому жизнь пострадавшего зависит от сообразительности и быстроты действий спасателей. И настоящим героем в этой ситуации выступил Александр. Воспользовавшись веревкой, он с дедушкой сумел вытащить из воды одного из тонувших рыбаков. К этому времени к месту происшествия подоспели отец с товарищем. Соорудив спасательное средство из веревки и палки, они смогли достать остальных утопающих. Однако, подойдя слишком близко к воде, папа Саши, дедушка и знакомый также оказались в полынье – рыхлый, подтаявший лед не выдержал тяжести взрослых людей. К счастью, им удалось выбраться самостоятельно, вспомнив о правилах поведения в экстренной ситуации. Спасатели, прибывшие на место, оказали всем пострадавшим необходимую помощь.

Рыбалка в этот воскресный день на Освейском озере для всех закончилась благополучно. А о том, что в СШ №5 Новополоцка учится настоящий герой, узнали не сразу. Ведь Саша, проявивший смелость и решительность при спасении утопающих рыбаков, подвигом свой поступок не считает. «Я сделал то, что должен был сделать», – скромно говорит школьник.

КАДРЫ

## Алена Анісім ізноў пойдзе ў дэпутаты

*Старшыня Таварыства беларускай мовы і дэпутат Палаты прадстаўнікоў заявіла, што ў гэтым годзе таксама пазмагаецца за дэпутацкі мандат.*

Нагадаем, што парламенцкія выбары пройдуць у лістападзе гэтага года, пры гэтым скарацэць тэрмін паўнамоцтваў парламента на 10 месяцаў.

*«Я зноў буду вылучаць сваю кандыдатуру ў той акрузе, дзе балатавалася раней»,* – кажа **Алена Анісім**. – *Рэкамендую таксама і прадстаўнікам ТБМ, каб яны ўзялі ўдзел у кампаніі. Складана пакуль сказаць пра шанцы на перамогу, але, на мой погляд, сёння палова поспеху ў мяне ўжо ёсць. А на 80 працэнтаў замахваюся не буду».*

**Віктар ШПАК.**

СУД!

## Малашэвічу – 5 гадоў пазбаўлення волі, Грушэўскаму – 4, Губарэвічу – 5

*Вынесены прысуд па справе аб выбуху на Скідзельскім цукровым камбінаце.*

Былому начальніку цэха пакавання цукру **Уладзіміру Малашэвічу** суд прызначыў 5 гадоў пазбаўлення волі, яго намесніку **Сяргею Грушэўскаму** – 4 гады, галоўнаму інжынеру завода **Уладзіміру Губарэвічу** – 5 гадоў калоніі. Суд прызнаў усіх трох фігурантаў справы вінаватымі ў службовай нядбайнасці.

Паводле прысуду, фігуранты не могуць займаць пэўныя пасады на працягу 5 гадоў.

Як вынікае з матэрыялаў справы, выбух адбыўся ў начную змену ў лютым 2017 года. Успышка пылапаветранай сумесі адбылася ў галерэі побач з цэхам пакавання і фасавання. Сцены цэха дэфармаваліся, былі пашкоджаны вокны і дзвярныя праёмы.

У выніку пяць жанчын атрымалі апёкі больш як паловы цела і пашкоджанні ўнутраных органаў. Чатыры жанчыны: **Тацціяна Слуцкая, Алена Кудзерка, Вольга Цярэшка** і **Лілія Ямант** – памерлі менш як праз месяц. Пятая, **Марына Урбановіч**, выжыла, але страціла працаздольнасць.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

З ПОШТЫ ГАЛОЎНАГА РЭДАКТАРА

# Каліноўскі – не «польскі мяцежнік»!

Паважаны Іосіф Паўлавіч!

За многія гады, што выпісваю «Народную Волю», упершыню даводзіцца звяртацца да Вас па важнай праблеме, узнятай на старонках Вашай газеты. З публікацый Міхася Скоблы «З якой печы ўпалі Высоцкая і Марзалюк» і «Каліноўскі – наш!» («Народная Воля» за 15 студзеня і 12 красавіка) я даведаўся, што ў новых падручніках па гісторыі Беларусі для 8-га класа паўстанне пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага кваліфікуецца як «польскі мяцеж», хоць у польскіх школьных падручніках пра Каліноўскага няма ні слова. Таксама шаноўны аўтар цытуе беларускія дзяржаўныя энцыклапедыі, дзе Каліноўскі называецца барацьбітом за нацыянальнае вызваленне Беларусі, палымяным абаронцам свабоды і народнага самакіравання.

Хацеў бы нагадаць, як ацэньваў Каліноўскага Інстытут гісторыі партыі пры ЦК КПБ, які, дарэчы, быў філіялам Інстытута марксізму-ленінізму пры ЦК КПСС. У кнізе «Кастусь Калиновский» (1988), выдадзенай пад грыфам інстытута, гаворыцца, што «великие, героические имена есть в истории каждого народа. Немало таких имен в истории Белоруссии. Среди них – имя замечательного революционера-демократа, мыслителя, поэта, публициста, руководителя восстания 1863 года в Белоруссии и Литве Кастуся (Викентия Константина Семеновича) Калиновского».

Я ўсё чакаў, што на старонках «Народнай Волі» з'явіцца тлумачэнне Міністэрства адукацыі ці спадара І.Марзалюка па ўзнятым пытанні. Не з'явілася. Што з гэтага вынікае? Відаць, трэба Міністэрству адукацыі накіраваць па ўсе школы Беларусі новую трактоўку постаці Кастуся Каліноўскага – як нацыянальнага героя, а не «польскага мяцежніка».

**Уладзімір ЕЎШАЛЬ.**

*Брэст.*

ПРОБЛЕМА!

# Когда главный архитектор ничего не решает…

*Министерство архитектуры и строительства предлагают переименовать. Не может министерство, где работает всего три архитектора, включая одного заместителя министра, отвечать за всю архитектуру в стране! Такое мнение прозвучало на «круглом столе», где обсуждались проблемы застройки Минска и взаимоотношения градостроителей с властью. Революционные предложения звучали из уст даже некоторых действующих чиновников, которые не боялись называть вещи своими именами и критиковать сложившуюся систему управления. «Народная Воля» записала самые яркие выступления.*

## Георгий ПОТАЕВ:
### «Если взорвать плотину на Заславском водохранилище, многие здания просто смоет…»

*Доктор архитектуры, профессор, заведующий кафедрой «Градостроительство» БНТУ Георгий Потаев обращает внимание на застройку в зеленых зонах.*



– Есть один фактор, который никто не учитывает и не объясняет инвесторам, которые лезут в зеленые зоны, – *говорит Георгий Александрович*. – У нас есть Заславское водохранилище. Это миллионы квадратных метров воды! Что такое волна цунами – вы прекрасно представляете. Так вот в век терроризма взорвать небольшую плотину, которая там есть, ничего не стоит. И многие объекты и здания могут не просто пострадать, их просто-напросто смоет.

Нужно беречь зеленые насаждения. Авторы генплана Минска прекрасно знают: когда-то у нас было семь зеленых клиньев, входящих в город. Сейчас уже с трудом насчитываем три!

Сегодня, пока не решен вопрос о планомерном развитии пригорода, у нас будут те поля застройки, которые не имеют собственных объектов обслуживания, а пользуются тем, что есть в Минске. Эта проблема пройдена много лет назад всеми крупными городами Европы. Нужны конкретные планы застройки пригородных территорий с ранжированием по их значимости, по их важности. И чтобы там обязательно размещались и пожарные депо, и поликлиники, и другие необходимые объекты. Это должно быть увязано с развитием транспортной сети, чтобы не было дополнительной нагрузки на город.

Раньше все время говорили, что застройка городов-спутников будет дешевле. Посчитали – оказалось, наоборот! Потому что панели нужно возить из Минска. Людям нужна разнообразная среда, и города-спутники могли бы предоставить возможность малоэтажной застройки, потому что транспорт сегодня позволяет довольно быстро добраться до города, и мы имели бы по-другому организованные пригороды.

Зоны отдыха, которые создавались в 60–70-е годы прошлого века вокруг Минска, серьезно изменились. И необходимо ставить задачу введения режимов и регламентов, которые позволили бы их сохранить. Например, мы сейчас со студентами разрабатываем велотрассы, пешеходные маршруты, чтобы придать новый статус этим территориям и показать, что они чрезвычайно важны для города.

## Леонтий ЗДАНЕВИЧ:
### «Не надо нам строить города-спутники!»

*Архитектор, лауреат государственной премии Беларуси, депутат Верховного Совета 12-го созыва Леонтий Зданевич говорит, что власть перестала прислушиваться к словам архитекторов.*



– Если мы проанализируем все генпланы Минска, то увидим, что каждый последующий не является продолжением предыдущего, – *говорит Леонтий Ульянович*. – Там такие радикальные изменения, что возникает вопрос: зачем вообще они делаются? Для управленцев? Власть, к сожалению, теряет контакт с профессиональным сообществом. И это является основной причиной проблем в градостроительстве.

Я наблюдаю за судьбой наших некоторых районных центров. Там тотальная безработица! Не надо нам строить города-спутники, тем более что речь идет только о спутниках Минска! По сути, спутники все равно обслуживают Минск. И люди не задумываются просто, где будут работать...

Когда-то Союз архитекторов согласовывал кандидатуру главного архитектора Минска. И звучало предложение переподчинить его Министерству архитектуры и строительства. Но я считаю, что совершенно случайно слово «архитектура» сегодня к этому министерству имеет отношение. Я убрал бы его, чтобы осталось просто Министерство строительства. Потому что министерство сегодня не контролирует и практически никак не влияет на процессы, которые происходят в нашей сфере.

## Михаил ГАУХФЕЛЬД:
### «Стыдно рассказывать, какие вопросы мы рассматриваем!»

*Заместитель председателя Белорусского союза архитекторов, член-корреспондент Международной академии архитектуры Михаил Гаухфельд считает, что люди должны знать имена архитекторов, которые создали выдающиеся памятники архитектуры и просто удачные здания.*



– Пройдитесь по улице Карла Маркса в Минске, – *предлагает Михаил Львович*. – Там каждое здание – историко-культурная ценность. Но разве мы не знаем, кто автор этих зданий? Это разве Древний Рим? Архитекторы – это тоже творцы, люди искусства. Почему авторы песен борются за свое авторство, они за это еще деньги получают, а мы – нет? Почему на табличках, которые висят на памятниках архитектуры, нет имен архитекторов, их создавших?

Или другой пример. На днях прохожу на вокзале мимо красивой ограды, с гранитом, которая была выкрашена в безобразный розовый цвет. Уже красят в такой же безобразный серый! Ну что, трудно было позвать автора и согласовать, во что это красить?

Или всем известное здание на улице Танка. Вы видели, что с ним стало сегодня? Это полное безобразие!

Мы все кричим, что нас мало слышат. Давайте все вместе сформулируем предложения, которые позволят сделать город лучше. Давайте добьемся, чтобы архитекторы участвовали в системе принятия решений и контроля за всем, что делается в городе. А для этого нужно, видимо, увеличить штат в Комитете архитектуры и градостроительства Мингорисполкома.

Кстати, за последние годы функции данного комитета очень сузились. Председатель комитета больше отвечает на жалобы, хотя должен заниматься прежде всего обликом города, комфортностью среды обитания.

Сегодня существует масса всяких архитектурных советов – и Минской области, и Минска, и республиканский совет. Стыдно рассказать, что мы рассматриваем на этих советах! Для того чтобы эти советы имели хоть какой-то вес, нужно посмотреть, как они работают в других странах: все архитектурные советы там созданы при руководителях министерств и ведомств, в России есть даже совет при президенте. И это правильно! Если высокие чиновники будут слышать мнение специалистов напрямую, может, что-то изменится. Это будет самый эффективный способ достучаться до власти.

## Александр ПЕТРОВ:
### «Мы согласовываем собачьи будки, но не объекты в центре города»

*Бывший председатель Комитета архитектуры и градостроительства Мингорисполкома честно говорит: чиновник, занимающий эту должность, практически ничего не решает.*



«Когда я понял, что главный архитектор города ничего не решает, я ушел с этой должности, – *говорит Александр Петрович*. – Сегодня главный архитектор нужен для того, чтобы при разборе полетов ему могли сказать: а где вы раньше были, почему не предупредили? А при принятии решений главный архитектор чаще всего остается за скобками.

Главный архитектор не может принимать субъективных решений, потому что есть утвержденные генеральный план и детальные планы.

Главный архитектор города превращается в чиновника, председателя комитета, который просто следит за тем, как реализуются утвержденные градостроительные документы и проекты.

Мне кажется, нужно прямо сказать: у нас есть Комитет архитектуры и градостроительства, который не занимается реально творческими вопросами, а контролирует оборот документации. Но реально никакими процессами он не управляет. Нет рычагов.

Во многих районах главных архитекторов нет вообще, есть лишь ведущие архитекторы отдела коммунального хозяйства, ведущие архитекторы какого-то отдела строительства. При этом за ними вроде бы сохраняются функции территориального органа архитектурной деятельности, но это совершенно неправильно. Это унижение этих специалистов! Они не могут принимать никакие решения, над ними еще целый ряд начальников, которые им просто не дадут принять эти решения.

Существующие архитектурные советы просто рассматривают итоги общественных обсуждений. А еще согласовывают собачьи будки, переоборудование пунктов приема стеклотары. А объекты на Октябрьской площади или в центральной части города – нет!

Архитектурный совет из органа, принимающего решения по формированию городской среды, превратился в орган, оправдывающий принятые кем-то решения, занимается мелочными согласованиями.

Архитектор не может отказать в согласовании проекта застройщику, потому что завтра к нему придут правоохранительные органы и скажут: на каком основании? Творческие вопросы так не регламентируются. И пока мы не поднимем статус архитектурных советов, мы ничего не добьемся.

## Вадим НИКОЛАЕНКО:
### «Архитекторы в районах сетуют на безнадежность…»

*Главный архитектор Минской области Вадим Николаенко признается: архитекторы сегодня не могут отстоять свою позицию даже на уровне председателя исполкома. А некоторые вообще не могут попасть на прием к районному начальнику!*



– В конце прошлого месяца мы провели совет главных архитекторов областей, – *говорит Вадим*. – В этот раз было много людей: было заявлено 55 человек, и все приехали. Просто у всех на душе накипело. Все понимают, что есть много проблем, которые необходимо решать.

Мы видим положительный опыт комплексной застройки, но я не знаю ни одного на 100 процентов реализованного плана и проекта! На каком-то этапе обязательно идет сбой…

Ни в одной административной процедуре вы не увидите, что архитектор имеет право отказать заявителю, если, например, недостаточно проработан проект или есть некорректные решения. Но если начинается разбор полетов, архитектор всегда оказывается крайним. Это ненормальная ситуация…

Мы сталкиваемся с большой текучкой на местах, отсутствием желания работать, кадровыми проблемами. Сегодня архитектор не является членом исполкома, он вообще не имеет права голоса и не влияет на процессы, которые происходят. Больше того – архитекторы почти не имеют прямого доступа к председателю исполкома!

Архитекторы в районах сетуют на безнадежность, они не могут отстоять свою позицию на уровне председателя исполкома! Они просят, чтобы их переподчинили Министерству архитектуры и строительства. Многие видят в этом выход, пусть и не совсем идеальный…

**Марина КОКТЫШ.**

